Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 42 Пятніца, 7-га Лістапада 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар.— 5 гр.

## Час ужо навучыцца.

Газэты паведамілі аб тым, што паслы клюбу Народна-Нацыянальнага Саюзу ўнясьлі ў Сойм сьпешную прапазыцыю аб увядзеньні на усходніх *Крэсах* выняткoвага палажэньня

Паўстае пытаньне, ці навучылася чаму-нібудзь польская *народова* дэмакратыя за 7 гадоў незалежнасьці Польскае Рэспублікі, ці яна заўсёды застанецца вернай сваёй адарванай ад жыцьця ідэолёгіі?

Практыка ўжо паказала, што аднымі голымі паліцэйскімі мерамі пажаданага спакою ў дзяржаве дасягнуць немагчыма.

Мы няраз заяўлялі аб тым, што дзеля унармаваньня тутэйшага жыцьця патрэбны крыху іншыя меры, патрэбна строгае прытарнаваньне да мясцовага жыцьця конституцыйных гарантыяў.

Народна-Нацыянальны Польскі Саюз не адзін мае сваіх прадстаўнікоў у Сойме і яго адных сіл ня хопіць на тое, каб нацыяналістычны проект выняткoвага палажэньня прайшоў у Сойме.

Есьць яшчэ і іншая польская дэмакратыя, якая надта добра разумее прычыны сёньняшняга бандытызму, прычыны крыху гістарычнага характару.

Трэба толькі спомніць недалёкі час, калі на чале Польскае Дзяржавы стаяў выдатны прадстаўнік польскае дэмакратыі Язэп Пілсудскі, ад асабістае волі якога шмат што залежала.

Трэба ўспомніць гэтага мілітарнага тварца рэальнае польскае сілы дый... нязгоднасьць яго дзеяньняў з яго словамі.

Трэба азірнуцца крыху назад і аблічыць страчаныя гэтак званаю „пілсудчынаю“ усе сто процантаў беларускае дэмакратыі.

Каму ад гэтага лепей?

У кожным выпадку, не беларусам і не палякам.

Што можа даць выняткoвае палажэньне ў нашым краі?

Спакой? Нармальнасьць?

Але трудна гаварыць гэтыя словы, калі заплюшчаны будуць вочы на глыбокія палітычныя прычыны сучаснай нам ненармальнасьці, сучаснага ліха ведае чаго!

Ці-ж ваенныя ваяводы што-нібудзь зьмянілі? Ці ад аднаго назначэньня іх на вышэйшыя пасады на *крэсах* зьняло, як рукою, бандытызм?

Нічога, здаецца, не зьмянілася. І мы сьмела можам сягоньня паўтарыць няраз цьверджанае намі, што толькі цераз рашучыя, незабаўныя рэформы ўсяго тутэйшага жыцьця можна дайсьці да дзяржаўна-разумнага рэзультату, дайсьці, пачынаючы з малога.

У сэнсе рэформаў чуем толькі гутаркі, а ня дзела.

А ў газэтах чытаем, што на чале аднае з бандаў на Валыні стаіць нейкі пастарунковы з Варохава Думанскі, які добра знае мясцовасьць. А ліха яго ведае, хто бывае на чале нападаў на паязды ў нашым краі, дзе-нібудзь пад Лунінцом або Баранавічамі.

У польскай прэсе мы знаходзілі тлумачэньне таго, як ловяцца бандыты. Нажаль, лунінецкі працэс паказаў, што пад відам бандытаў часта на лаву абвінавачаных сядаюць саўсім нявінныя людзі ды навет трапіў на яе вядомы беларускі дзеяч з полёнафільскага лагеру Адам Курыловіч.

Праўда ён быў апраўданы над'звычайным (doraźnym) судом. Праўда таксама, што быў заразжа арыштованы па нейкай іншай справе.

Мы ня ведаем гэтае справы і спакойна згодны чакаць прыгавару суда і па гэтай новай справе. Але кожны разумее, што такое над'звычайны суд, кожны разумее, што гэткаму суду падлягаюць справы таксама над'звычайныя.

І што-ж выходзіць, калі суд гэты нявінна абвінавачаных апраўдавае?

Не выняткoвым станам, не паліцэйскімі мерамі самага суровага гатунку можна аходаць бандытызм, а прызнаньнем і рэалізацыяй бяз ніякіх агаворак сьвятога права кожнага і не-паляка, але грамадзяніна Польскае Рэспублікі, на тыя варункі быту, якія забясьпечаны ў прынцыпе Конституцыяй.

Годзі пасылаць у край чужацкі для яго вураднікі элемэнт з Пазнані і Галіцыі. Са сваімі Думанскімі, калі яны й зьявяцца тут, поўнапраўнае насяленьне вельмі лёгка само справіцца сваімі народнымі, хоць нацыянальна можа й няпольскімі, сіламі.

Годзі ўжо думаць, што сілаю можна перарабіць душу беларускага селяніна на польскую.

Выняткoвае палажэньне ясна абварункована Констытуцыяй і ўводзіць яго ня вельмі лёгка.

Калі-б, аднак-жа, яно й было ўведзена, дык ці-ж можа яно трываць заўсёды?

Ці-ж трудна зразумець, якое ўражаньне робіць на насяленьне арышты „падазронных“ асобаў пасьля таго ці іншага нападу бандаў на паязды? Мы нанова паўтараем, што бандытызм, які такі, сам па сабе працiўны духу ціхамірнага беларускага селяніна.

Трэба толькі падняць у гэтым селяніне дух актыўнае барацьбы з агідным для яго зьявішчам, якое пагражае безрызыкоўным бушаваньнем вакол яго убогае хаты.

Трэба шчыра, адкрыта і практычна зразумець яго нацыянальна-бытавыя інтарэсы, найсьці ім насустрачу ды ня пісаць у законах аднаго, а пасьля, як гэта зрабіў адзін з павадыроў *нарадовае* польскае дэмакратыі п. Станіслаў Грабскі, прыехаўшы ў Вільню, ня стыдаючыся заяўляць, што недаробленае ў нацыяналістычным духу законамі, даробіцца міністэрскімі распараджэньнямі. Для законаў не павінна быць „ні эліна ні іудзя“, з чым дасюль ніяк ні могуць згадзіцца польскія нацыяналісты, шукаючы выхаду з прыкрасьцяў дзяржаўнага жыцьця Польшчы ў выняткoвых палажэньнях, у мерах яшчэ большага завастрэньня мясцовых нацыянальных адносін.

Край наш заселены ня горшымі за іншыя куткі Польшчы грамадзянамі і мы сьмела паднімаем свой голас за тое, каб не рабіць з яго нейкага польскага Сыбіру. Усе гарантыі Констытуцыі, ўсе правы, якія з яе выцякаюць, належаць і нам, пакуль яна істнуе. А істнаваць мусіць, дзеля таго, што зьяўляецца яна фундамэнтам дзяржаўнасьці.

Час ужо навучыцца навет і ўсяму нацыяналістычнаму польскаму лагеру зразумець простыя рэчы і ведаць, што разам са сваімі роднымі нацыянальнымі інтарэсамі істнуюць побач і крыху іншыя інтарэсы, ад разумнага задаваленьня якіх у вялікай меры залежыць агульны дзяржаўны дабрабыт.

## Палітычны агляд.

Ангельскія выбары закончыліся непамятнай у гісторыі ангельскага парлямэнтарызму перамогай консэрватараў і поўнай няўдачай лібэральнай партыі. Аканчальныя рэзультаты выбараў гэткія: консэрватары адтрымалі 415 мандатаў (раней мелі 259), лібэралы 44 (раней — 128) і рабочая партыя 152 (раней — 192). За консэрватараў галасавала 7½ мільёнаў выбаршчыкаў, за рабочую партыю 5½, за лібэралаў 3,1 міл. і за камуністых 56.000. Узяўшы пад увагу, што агульны лік дэпутатаў палаты 615, дык адна консэрватыўная партыя адтрымала больш за 2/3 ўсіх галасоў. Гэткай перамогі консэрватыўная партыя не адтрымала ад 1832 году. Гэткі круты паварот управа тлумачыцца моцным расчараваньнем ангельскай грамадзкай думкі ў палітыцы рабочага кабінэту Макдональда, які ня споўніў ніводнага з пунктаў свае праграмы.

Не пасунулася ні на крок уперад ані пытаньне аб безрабоціцы, ані пытаньне аб палепшаньні агульнага эканамічнага палажэньня ў Англіі. А імкненьне Макдональда да ўзмацаваньня адносін з С. С. Р. Р., у якім расчараваўся амаль што ня ўвесь сьвет, пагражала яшчэ больш пагоршыць палажэньне рабочых у Англіі. Гэтым і тлумачыцца, дзеля чаго шмат рабочых аддалі свой голас за консэрватараў, як балей абясьпечваючых моц палітычнага і эканамічнага палажэньня дзяржавы. У кароткі працяг часу ад 1921 г. до 29 верасьня 1924 г. Англія перажыла тры ўрады — кансэрватыўна - лібэральны ўрад Л. Джорджа, чыста-консэрватыўны ўрад Бонар Лёў'а і Бальдуіна і ўрэшце апошні — рабочы ўрад Макдональда. Кожны з іх імкнуўся да ліквідацыі шкодных рэзультатаў вайны і наступіўшага пасьля яе эканамічнага крызысу і быў прымушаны сайсьці са свайго месца дзеля таго, што ня мог разрашыць гэту задачу, у той час, як эканамічны крызыс падрастаў усё балей ды балей, а безрабоціца не зьмяншаецца, а расьце. Але з гэтых

трох урадаў, наступаўшых адзін за адным, найбалей стараўся разрашыць гэтыя проблемы консэрватыўны ўрад Бальдуіна, які, бачачы неабходнасьць увядзеньня аграніччэньня загранічнага ўвозу праз павышэньне ўвознай аплаты і ня маючы пэўнасьці, што большасьць народу згаджаецца з гэтым паглядам, пастанавіў распусьціць парлямэнт і назначыў новыя выбары, каб праверыць думку краю, рызыкуючы ўтраціць сваю уладу, якая зусім была абясьпечана абсолютнай большасьцю ўрадовай консэрватыўнай партыі ў парлямэнце. Зусім інакш зарэкамэндаваў сябе рабочы ўрад Макдональда, які насупроць выразнай большасьці краю, хацеў накінуць Англіі непатрэбную ды навет шкодную дружбу з бальшавікамі. Гэта ўсё мела рашучы ўплыў на настрой ангельскага выбаршчыка, які ўжо зразумеў, за каго трэба галасаваць.

Гэткім чынам консэрватыўная партыя адтрымала рашучую перавагу і цяпер прыходзіцца спадзявацца, што гэты парлямэнт ня будзе распушчаны да канца яго паўнамоччаў, г. зн. ў працягу 5-ёх гадоў, і што праз гэты час будзе моцна трымаць уладу консэрватыўны ўрад. Дзеля гэтага яшчэ большае значэньне мае гэтая перамога консэрватараў, якая азначае паварот ня толькі ў ангельскай, але навет і ў агульна-эўропэйскай палітыцы. Як францускае, нямецкае і інш. дзяржаваў палітыка павінна была перамяніць свой курс і прытарнавацца да палітыкі Макдональда, гэтак сама ўсе дзяржавы павінны зрабіць адпаведную папраўку ў сваёй палітыцы ў зьвязку з вярнуўшымся да ўлады новым консэрватыўным урадам. У адносінах да Англіі новы палітычны курс выразіцца ў тым, што перш-на-перш будзе аграніччаны ўвоз чужаземных тавараў, каб падняць родную прамысловасьць. Гэты загад адаб'ецца асабліва на Нямеччыне, якая значны процэнт сваіх тавараў вывозіць у Англію. Далейшым разьвіцьцём ангельскай незалежнасьці ад контынэнтальнай Эўропы будзе імкненьне да ўзмацаваньня эканамічнай зьвязі з ангельскімі калёніямі, якія ў часе вайны пасьпелі разьвіць ўласную прамысловасьць і з эканамічнага боку здабылі поўную незалежнасьць ад мэтраполіі.

А заграніччная палітыка новага ангельскага ўраду найбалей зьменіцца ў адносінах да С. С. Р. Р. Калі ангельска-савецкі дагавор, падпісаны Макдональдам, ня будзе зусім зьніштожаны, дык усёткі значна пераменіцца ў тым напрамку, каб балей абясьпечаваць інтарэсы Англіі. Пры новым, зьмяніўшымся палажэньні бальшавікі ніяк ня могуць спадзявацца грашавое пазыкі ў Англіі, таксама як страцілі ўжо ўсякую надзею на пазыку ў Амэрыцы. Гэтая пазыцыя Англіі ў адносінах да С. С. Р. Р., якая ёсьць простым рэзультатам няўдачы рабочай партыі і перамогі консэрватараў, павінна зрабіць свой ўплыў і на адносіны Францыі да С. С. Р. Р. Эрыё пасьпяшыўся прызнаць радавы ўрад пад некаторым націскам з боку Макдональда, які гэтак хацеў зрабіць уплыў на рэзультат выбараў. Але дзеля таго, што Макдональд на выбарах праваліўся, пасьлізнуўшыся аб савецкае пытаньне, Эрыё ня мае іншага выхаду, як таксама пераменіць свае адносіны да радавага ўраду, калі толькі ён ня хоча рызыкаваць сваім асабістым палажэньнем і міжнародным палажэньнем Францыі. Консэрватыўная Англія, як і раней, будзе імкнуцца да захаваньня прыязьні з Францыяй, якая з свайго боку таксама цэніць гэтую прыязьнь, як аснову эўропэйскага міру. Але падтрыманьне ангельска-францускай прыязьні немагчыма пры розных адносінах да расейскага пытаньня, як раней было немагчыма пры розных паглядах на нямецкае рэпарацыйнае пытаньне. І з гэтага боку Англія спаткае поўнае падтрыманьне Амэрыкі, якая згадзілася фінансаваць Эўропу пад варункам, што будзе поўная згода між Англіяй, Францыяй і Нямеччынай і што ніводзін даляр з гэтых субсыдыяў не пападзе ў рукі бальшавікоў.

*N.*

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

4-XI паслы Каленкевіч, Рачкоўскі і інш. з Народна-Нацыянальнага Саюзу падалі ў Сойме сьпешную прапазыцыю аб увядзеньні вынятковага палажэньня на абшарах, дзе адбываюцца напады дывэрсійных бандаў.

У аўторак каля 1 гадз. у кулюарах Сойму пасол Медзінскі (Wyzwolenie) напаў на пасла-эндэка Рабскага, правіцовага журналістага. Прычынай нападу быў фэльетон Рабскага у панядзелковым нумары „Kurjera Warszaw.“.

3-га XI ўвечары прэм'ер-міністар Доўга меў нараду з міністрамі унутраных справаў і справядлівасьці па пытаньнях, зьвязаных з пінскім працэсам і апошнім нападам на поезд пад Баранавічамі.

4-XI новы пасол С. С. Р. Р. Войкаў быў прыняты міністрам заграніччных справаў п. Скржынскім. У бліжэйшыя дні Войкаў мае падаць свае вярыцельныя граматы п. Прэзыдэнту Рэспублікі.

Як паведамляе «Kur. Wiecz.», міністэрства рэлігіяў і прасьветы занята апрацоўкаю дэтальнага пляну рэарганізацыі праваслаўнае царквы ў Польшчы.

У бюд'жэтным прэлімінары на лістапад месяц прадбачаны крэдыт у 6.400.000 злотых, прызначаных на пагашэньне расходаў, зьвязаных з арганізацыяю варты на ўсходняй граніцы.

Міністар аховы працы п. Дароўскі падаўся, як піша „Robotnik“, у адстаўку.

**За граніцай.**

У **Англіі** назначанае на 4-XI паседжаньне кабінэту не адбылося. Замест гэтага Макдональд падаў каралю прашэньне аб адстаўцы. Даручэньне злажыць новы кабінэт дана Бальдуіну.

У **Амэрыцы** закончыліся 3 лістапада а 6 гадзіне ўвечары выборы прэзыдэнта. Прэзыдэнтам **Злучаных Штатаў** выбраны Кулідж, а віцэ-прэзыдэнтам Доўс.

Як паведамляюць з **Парыжу**, ў **Шэрбургу** 235 расейскіх эмігрантаў, якія ўжо цэлы год чакаюць адпраўкі ў Злучаныя Штаты, але ўсё яшчэ не адтрымалі візаў, абвясьцілі галадоўку.

У толькі што выбраны новы парлямэнт **Англіі** ўвайшлі 14 **жыдоў:** 2 ад рабочай партыі, 5 лібэралаў і 7 консэрватараў.

З Парыжу паведамляюць, што паслом **Францыі** у **Маскве** будзе назначаны Гэрбэрт, а савецкім паслом у **Парыжы** — Красін.

„Times“ паведамляе, што адчыненьне **ангельскага** парлямэнту будзе мусі адложана да 1-га ці 2-га сьнежня.

У **Гішпаніі** на дыктатара гэн. Прыма-дэ-Рывэра быў зроблены замах афіцэрам, якога гэнэрал зьняважыў падчас гутаркі. Афіцэр два разы стрэліў да гэнэрала. Адна куля трапіла ў плячо. Незабаўна сабраўся ваенны суд, які вынес, па жаданьню Прыма-дэ-Рывэры, прыгавар сьмерці для афіцэра.

Як тэлеграфуюць з **Белграду**, чуткі аб тым, што лідэр **харвацкіх** рэспубліканцаў Радзіч уцёк за граніцу, не адпавядаюць праўдзе. Радзіч пакінуў сталіцу, але ня ўцёк за граніцу, а выехаў у вёску дзеля агітацыі.

Паводлуг вестак з **Масквы**, ў Адэсэ закрыта галоўная сынагога. Прычыны гэтага — палітычныя.

У **Букарэшцэ**, сталіцы **Румыніі**, паліцыя ўночы з 3 на 4.X ўварвалася ў памешканяне Хрысьціянскае Лігі, дзе арыштавала 2-х студэнтаў, западозраных у забойстве прэфэкта паліцыі ў **Яссах.** Раскрыты плян меў мэтаю зрабіць рад новых палітычных забойстваў.

З **Данецкага** басэйну бальшавікі высяляюць цэлы рад жыдоўскіх сем'яў, якія не належаць да „працоўных элемэнтаў“. Прычына — патрэба кватэр для вугляkопаў.

# Агляд прэсы.

„Kurjer Poranny“, які пасьля луніпецкага нападу шмат месца на сваіх шпальтах аддаў справе аздараўленьня *крэсаў*, няраз выяўляючы тыя адміністрацыйныя недахваты, якія давялі гэтыя крэсы да цяперашняга безгалоўя, пасьля апошняга бандыцкага нападу на цягнік ізноў адгукнуўся артыкулам: „Na Kresach bezrobocie i nowe napady“. На гэты раз „Kurjer Por.“ знайшоў новую прычыну „хваробы“ Крэсаў — слабое разьвіцьцё лясной прамысловасьці.

Апошні бандыцкі напад на цягнік — піша „Kur. Por.“ — павінен прымусіць урад і ўсё грамадзянства глыбей углядзецца ў тыя варункі, якія пануюць на Крэсах і пазбавіць злога суседа магчымасьці ўнасіць пажар пад нашу страху. Трэба зьвярнуць увагу на эканамічнае палажэньне краю, якое дае магчымасьць арганізаваць фармальныя аддзелы, а здэмаралізованным вайной элемэнтам абясьпечвае падмогу суседа ў іх ліхадзейнасьці...

Сярод крыніц страшэннага стану бясьпечнасьці на Крэсах эканамічныя варункі, якія там пануюць, гуляюць надта важную ролю. Трэба бліжэй да іх прыглядзецца...

Усходнія Крэсы маюць вялікае лясное багацьце — і як толькі пасьля вайны прышло успакаеньне, у

---

ГЭНРЫХ СЯНКЕВІЧ.

# Янка-музыка.*)

*(Пераклад з польскага).*

Прыйшло гэта на сьвет кволае, слабое. Кумы, сабраўшыяся каля нараў радзіўшай, круцілі галавой і над маткаю і над дзіцянём. Каваліха Сымоніха, якая была найразумнейшаю, пачала пацяшаць хворую:

— Давайце, — кажа — дык запалю над вамі грамніцу, ўжо нічога з вас ня будзе, мая кумачка; ўжо вам на той сьвет трэба зьбірацца і трэ'было-б паслаць па ксяндза, каб вам грахі вашы адпусьціў.

— Дык вось! — кажа другая — а хлопчыка дык трэба зараз ахрысьціць; ён і ксяндза не дачакаецца, а — кажа — добра будзе, калі няхрышчаны на той сьвет ня пойдзе.

Гэтак кажучы, запаліла грамніцу, а пасьля, ўзяўшы дзіця, пакрапіла яго вадой, ажно яно пачало плюшчыць вочкі, і сказала:

— Я хрышчу цябе ў Імя Айца і Сына і Сьвятога Духа і даю табе імя Янка, а цяпер, хрысьціянская душа, ідзі, скуль прыйшла. Амэн.

Але хрысьціянская душа а ні думала ісьці туды, скуль прыйшла, і пакідаць кволага цела, наадварот, пачала брыкацца нагамі свайго цела і плакаць, але гэтак слаба і жаласьліва, што кумы казалі: „Падумаеш, што кацянё ці нешта гэткае“...

Паслалі па ксяндза, прыехаў, зрабіў сваё, паехаў; хворая палепшала. Праз тыдзень баба пайшла на работу. Хлопчык ледзь дыхаў, але жыў. Пасьля трох гадоў папраўіўся і сяктак дацягнуў да дзесяцёх гадоў.

Заўсёды быў худы і абгарэлы, са ўздутым жыватом, са ўпалым тварам; валасы меў ясныя, амаль што ня белыя і падаўшыя на ясныя вырачаныя вочы, глядзеўшыя на сьвет, быццам углядаўшыяся ў нейкую бязьмежную даль. Узімку сядаў за печкай і ціханька плакаў са сьцюжы, а часам і з галаду, калі мамка ня мела чаго ўлажыць ані ў печку, ані ў гаршчок; улетку хадзіў у падпяразанай сарочцы і ў саломеным капялюшы, і з-пад падзёртага брыля глядзеў, задзіраючы галаву ўгару, як птушка. Маці, бедная чыншавічка, жыўшая з дня ў дзень, як ластаўка пад чужой страхой, можа й любіла яго пасвойму, але біла яго часта. Маючы восем гадоў ужо ганяў жывёлу ў поле. Што яго там ня зьеў калі воўк — дыка гэта літасьць Божая.

Гэта быў хлапец дурнаваты і, як усе вясковыя дзеці, гутарачы з людзьмі садзіў сабе палец у рот. Людзі навет ня думалі каб ён выгадаваўся, а яшчэ менш, каб маці, дачакалася ад яго пацехі, бо і да работы быў нягодны. Няма ведама, з чаго ён быў гэткі, але на адну рэч быў надта прагавіты, гэта на музыку. Усюды яе чуў, а як толькі крышку падрос, дык ні аб чым іншым ужо ня думаў. Пайдзе, бывала ў лес за жывёлай або з кошыкам па ягады, дык вернецца бяз ягадаў і кажа, гаркавячы:

— Мамка! ў лесе гэтак нешта „грляла“! Ой! ой!

А маці кажа:

— Я табе зайграю! нябось!

І часам спраўляла яму „музыку“. Хлапец крычаў, абяцаўся, што гэтага ўжо ніколі ня будзе, а аднак думаў, што там у лесе нешта грае... Што? ці яму ведама?.. Сосны, елкі, бярозы, клёны, — ўсё грала: граў увесь бор!

Рэха таксама... У полі граў жаўранак, у садку перад хатай пяялі вераб'і, ажно вішні дрыжалі! Увечары слухаў усе галасы, якія чутно на вёсцы, і мабыць думаў, што ўся вёска грае. Як паслалі яго на работу, каб раскідаў гной, дык нават вецер граў яму ў вілах.

Пабачыў яго раз эканом, як ён стаяў з разьвеянымі валасамі і ўслухоўваўся ў вецер,

*) Henryk Sienkiewicz. — Janko muzykant.

гэтых лясох закіпела энэргічная праца..

Далей аб гэтай працы „Kur. Por." выражаецца вельмі мягка, далікатна:

Быць можа, што эксплёатацыя лясоў пачалася надта гвалтоўна і спэкуляцыйна, часам з прычыны недагляду ўлады—спосабам рабунковым, сьсякаючы лясы, якія павінны былі быць захованымі, а не сьсякаючы ссохшых, перавернутых, абгарэўшых ад пажару, дзеравякаў...

Але гэта ня надта важная справа. А важна—паводле „Kur. Por." тое, што:

кіпела работа, будаваліся лясныя чугункі, сяклі і вывозілі дрэва, ў лясох гудзеў рогат машын, сьвіст пілаў і сякераў.

А цяпер:

Тысячы безработных з кожным днём павялічваюцца. Цяпер гэтыя тысячы, кінутыя на бяду і голад, даюць багаты бандыцкі матар'ял. Лясы, ў якіх запанавала мёртвая цішыня, зрабіліся бясьпечным прытулкам бандаў. Да гэтага трэба дадаць яшчэ адно: для значнай часткі жыхароў Крэсаў яшчэ ня высьнена справа дзяржаўнай прыналежнасьці. Быўшыя ўцекачы, якія пасьля вайны варочаліся да хаты праз г. наз. зялёную граніцу, нелегальна, бяз ніякіх дакумэнтаў, часта ня могуць даказаць сваіх правоў на польскае абыватэльства. Кнігі і сьпіскі насяленьня згарэлі разам з мястэчкані і вёскамі, а гэтыя людзі, ня маючы папераў, ня маюць свабоды руху, ня могуць шукаць працы, калі-б навет яны маглі і хацелі дзеколечы знайсьці..

Гэткім чынам газэта прыходзіць да вываду, што бандыцкі элемэнт папаўняе мясцовае насяленьне.

Цяпер тысячы гэтых безработных і незалегалізованых ёсьць элемэнтам здэмаралізованым, небясьпечным, які шукае за ўсялякую цану спосабаў да жыцьця і вайна прывучыла іх да грабежства і крыві! Дык няма дзіва, што, маючы гэтулькі падатлівага матар'ялу, бальшавікі вельмі лёгка і з малой затратай грошай і працы могуць падбураць і паводле свайго пляну скіроўваць бандыцкую дзеяльнасьць.

Далей, заклікаючы да разьвіцьця ляснойпрамысловасьці на Крэсах, якая дасьць працу тысячам безработных, аўтор канчае свой артыкул гэткім вывадам:

Калі ўрад стараўся і стараецца, каб даць працу ў вялікіх прамысловых цэнтрах, маючы на ўвазе грамадзкае супакойства, дык не павінен да справы безрабоцьця на крэсах адносіцца менш паважна, тым балей, што нясложную і невымагаючую ані спэцыяльных машынаў, ані арганізацыі драўляную прамысловасьць лягчэй ажывіць, чымся нейкую іншую. Безрабоцьце і голад не дазваляюць акуратна абясьпечыць крэсы, навет увёўшы самыя дарагія і замысловатыя спосабы.

# ПА СЬВЕЦЕ.

## Новая тэорыя Марозава.

„Руль" піша, што вядомы шлісэльбуржэц і вучоны Мікалай Марозаў аўтор кнігі „Откровеніе въ грозѣ и бурѣ" выпусьціў новую кнігу „Хрыстос", у якой ён крытыкуе Эвангэльле. Прототыпам Хрыста ён лічыць сьвятога Васіля Вялікага, а ў акружаўшай яго грамадзе вучоных і астролёгаў таго часу знаходзіць 12 апосталаў. Як думае Марозаў, 4 эвангэльлі напісаны ў VIII-IX сталец. нашае эры, якую ён называе не хрысьціянскаю, а александрыйскаю. Крытыка Марозава далёка выходзіць за межы царкоўнае і эвангэльскае гісторыі. Прыйшоўшы да вываду, што сапраўдны, па яго думцы, Хрыстос—Васіль Вялікі быў стаўпованы 21 сакавіка 368 г. нашае эры (пасьля чаго пражыў яшчэ 11 гадоў), ён перасоўвае ўсю гісторыю старадаўняга сьвету больш-менш на 3 — 4 сталецьці бліжэй да нашае эпохі. У сувязі з гэтым, ён рашуча крытыкуе ўсю агульна-прынятую гісторыю старадаўняга сьвету і сярэднявекаўя. Аснаўны вывад яго зводзіцца да таго, што ўвесь сяродземна-марскі сьвет складаў у сівой мінуўшчыне і навет у пачатку сярэдніх вякоў адно цэлае — нейкую лаціна-эліна-сірыйска-эгіпэцкую імпэрыю, і што, гэткім чынам, рымскія і візантыйскія імпэратары і іудэйскія цары, і эгіпэцкія фараоны былі аднымі й тымі самымі асобамі, але толькі называліся парознаму ў паасобных краёх. Навет савецкія газэты называюць вывады Марозава парадоксальнымі.

## Новы руйнацкі газ.

У хімічнай лябораторыі „Стандарт Ойль і Ко", ў штаце Нью-Джэрсі (Амэрыка) выдуманы новы цікавы газ, які мае руйнацкі ўплыў на чалавечы арганізм. Двох рабочых, якія праз неасьцярожнасьць удыхнулі гэты газ, страцілі глузд. Шмат іншых сур'ёзна захварэла.

## Малая Антанта жанчын.

З Белграду тэлеграфуюць за 4-га лістапада, што конгрэс гэтак званае „Малое Антанты жанчын" або жанчын тых краёў, якія належаць да Малое Антанты, а таксама Польшчы і Грэцыі, закончыўся 3.XI. прыняцьцем рэзалюцыі, пасланае ў Лігу Народаў і урадам ды парлямэнтам тых сяброў Лігі, якія не далі ў сябе жанчынам поўных палітычных правоў. Рэзалюцыя трэбуе поўнае роўнапраўнасьці жанчын.

## Забойства па ўзору.

З Бэрліну надыйшла вестка, што італьянскія студэнты Лімонэ Аморэтчо 21 г. і Тадэо Сальваторы 19 г., сыны багатых купцоў, начытаўшыся пра забойства ў свой час у Чыкаго (Амэрыка) сынамі мільянэраў Леапольдам і Лебам свайго таварыша, зманулі свайго кампана Галео Калегора, завялі яго ў дамавіну сьвят. Аўгустына каля места Наро ў Сыцыліі дый забілі яго. Усе падробнасьці забойства абсолютна падобны да жахоўнага чыкагскага ўзору. Труп Калегора забойцы схавалі ў дамавіне сьвятога Аўгустына.

Бацькі забітага падазравалі, што іхні сын зьнік з якою-нібудзь дзяўчынаю. Толькі цераз некаторы час яны адтрымалі пісьмы з трэбаваньнем грошай, па сьлядох чаго паліцыі і ўдалося знайсьці забойцаў. Абодва студэнты да праступленьня прызналіся.

## Ці будзе праваслаўны папа?

З Бэрліну паведамляюць, што сабор расейскае праваслаўнае царквы заграніцаю ў Карлаўцах усё яшчэ праходзіць у абсолютнай тайне. На сабор прыбыла спэцыяльная дэлегацыя ерусалімскага патрыярха, ў сувязі з абгаворам пытаньня аб стварэньні ў Ерусаліме спэцыяльнае пасады Папы Усяленскае Праваслаўнае Царквы. За гэта выказваюцца ўсходнія патрыярхі. Спадзяюцца, што расейскія архірэі выкажуцца проці гэтага проекту.

## Экспэртыза пісьма Зіноўева.

Як перадаюць з Лёндану, ўрадовая камісія дзеля звучэньня арыгінальнасьці пісьма Зіноўева да ангельскіх рабочых працавала 3.XI цэлы дзень. Начальнік палітычнага аддзелу ў вялікім дакладзе даказваў, што ў працягу раду месяцаў Масква пры падмозе брашураў і пісьмаў вяла рэвалюцыйную пропаганду ў Англіі. Урад меў сабрацца 4.XI дзеля слуханьня дакладу камісіі.

# У С.С.Р.Р.

## „Праверка".

На пленарным паседжаньні цэнтральнае кантрольнае камісіі сэкрэтар камуністычнае партыі Яраслаўскі далажыў аб рэзультатах праверачнае кампаніі ў камуністычнай партыі. Дасюль праверыны арганізацыі Петраграду, Масквы, Беларусі і Пэнзенскае губэрні. Цяпер ідзе праверка ў Кіеве, Адэсе, Харкаве, Арле, Валогдзе, Туле, Чарнігаве, Кастраме і Смаленску. Яраслаўскі рашуча запярэчыў таму, што праверка мела мэтаю расправу з опозыцыяй, хаця прызнаўся, што праверка пачалася непасрэдна пасьля вядомае партыйнае дыскусіі ў пэрыяд надзвычайнага завастрэньня ўнутраных партыйных адносін. Па думцы Яраслаўскага, да опозыцыі было праяўлена занадта лагоднае аднашэньне. Гэтак, з інстытуту чырвонае прафэсуры было выключана толькі каля 1/з ўсяго ліку, з прычыны крайняе „недабрыні" слухачоў інстытуту з пункту гледжаньня іхняе мінулае партыйнасьці і соцыяльнага паходжаньня. Аднак-жа, пасьля выключэньня, маскоўская кантрольная камісія вярнула назад каля 80 проц. Ня гледзячы на гэта, да чысткі ў інстытуце чырвонае прафэсуры пераважала опозыцыя, а пасьля чысткі—староньнікі цэнтральнага камітэту.

Яраслаўскі вельмі здаволены з таго, як адбывалася чыстка, аднак-жа, прызнае рад дэфэктаў. У першую чаргу „тыя, хто сам рабіў праверку, часта патрабуюць самі палітычнае веды". Часта — густа тыя, хто трымаў экзамены, аказваюцца, паводле свайго разьвіцьця, значна вышэйшымі за

---

які граў у вілах... пабачыў: і, расьперазаўшыся, даў яму добрую памятку. Але гэта нічога не памагло! Людзі яго клікалі «Янка музыка!...». Вясной уцякаў з хаты, круціў над рэчкай жалейку. Уночы, як пачыналі рагатаць жабы, дзяргачы дзяргатаць на сенажаці, жукі бзыкаць над расой, калі пеўні пялі на платох, ён ня мог спаць, а толькі слухаў, і Бог толькі ведае, якую ён там чуў музыку... Маці не магла яго браць да касьцёла, бо як, бывала, загудуць арганы або запяюць салодзенькім голасам, дык дзіцяці гэтак вочы імглой пакрываліся, быццам глядзяць ужо ня з гэтага сьвету...

Начны сторож, які ўночы хадзіў па вёсцы і, каб не задрамаць, лічыў зоры на небе або ціха гутарыў з сабакамі, няраз бачыў белую сарочку Янкі, якая мігцела ў цемры на шляху да карчмы. Дык-жа хлапец хадзіў не ў карчму, але пад карчму. Там, затаіўшыся пад мурам, слухаў. Людзі скакалі лявоніху, часам нейкі парабак ускрыкваў: „У-га!" Чутно было стуканьне ботаў, іншы раз дзявочыя галасы. Скрыпка ціха пяяла: „Будзем есьці, будзем піці, будзем весяліцца", а басэтля грубым голасам утаравала з павагай: „Як Бог дасьць! як Бог дасьць!" Вокны зіхацелі сьветам, а кожная бэлька ў карчме, здавалася, дрыжыць, пяе і таксама грае, а Янка слухаў!...

Што-б ён даў, каб мог мець гэткую скрыпку, граўшую тонка: „Будзем есьці, будзем піці, будзем весяліцца!" Гэткія пявучыя дошчачкі! Га, але скуль іх узяць? Дзе гэткія робяць? Каб яму прынамсі пазволілі хаця раз узяць у рукі нешта гэткае!... Куды там! Яму можна толькі чуць, дык вось ён слухаў датуль, пакуль голас начнога сторожа не азваўся ў цемры:

— А ня пойдзеш ты да хаты, галапупнік!

Дык тады ўцякаў на сваіх босых нагах да хаты; за ім гнаўся ў цемры ночы голас скрыпкі: „Будзем есьці, будзем піці, будзем весяліцца!" і паважны голас басэтлі: „Як Бог дасьць! Як Бог дасьць! Як Бог дасьць!"

Як толькі мог пачуць дзе скрыпку, ці на дажынках, ці на вясельлі, дык гэта было для яго вялікае сьвята. Узлазіў пасьля на печку і праз цалюсенькія дні нічога не казаў, гледзячы, як кот, бліскучымі вачыма ў цемры. Пасьля зрабіў сабе скрыпку з гонта і конскіх валасоў, але яна не хацела так хораша граць, як тая ў карчме: бубнела ціха, надта ціханька, гэтак, як муха нейкая або камар. Ен граў на ёй ад раніцы да вечара, хаця гэтулькі даставаў за гэта, што выглядаў як абіты, нясьпелы яблык. Але гэткая ўжо была ягоная натура. Дзіця худзела ўсё больш, толькі бруха заўсёды мела вялікае, валасы ўсё гусьцейшыя і вочы ўсё шырэй расплюшчаныя, хаця часьцей за ўсё сьлязьмі залітыя, а твар і грудзі западалі ўсё глыбей ды глыбей...

Ен зусім ня быў падобны да іншых дзяцей; быў, як гэтая яго скрыпка з гонта, якая ледзь бубнела. Вясной часта галадаў, карміўся часьцей за ўсё сырой моркаўкай і жыў жаданьнем мець скрыпку.

Але гэтае жаданьне блага скончылася.

У панскім двары меў скрыпку лякай і часта змрокам граў, каб спадабацца кухарцы. Янка, часам, падпаўзаў між лапухоў ажно пад адчыненыя дзьверы, каб прыглядзецца да скрыпкі Яна вісела якраз на сьцяне насупроць дзьвярэй. Дык там хлапец усю сваю душу праз вочы слаў да скрыпкі, дзеля таго, што яму здавалася, што гэта нейкая недаступная для яго сьвятасьць, да якой ён ня можа пасьмець дакрануцца, што гэта нейкае найдаражэйшае ягонае мілаваньне. Але, аднак, пажадаў яе. Хацеў хаця раз мець яе ў рупэ, прынамсі бліжэй да яе прыглядзецца... Беднае малое сялянскае сэрца ад гэтай думкі дрыжэла ад шчасьця.

*Пераклаў* Ю. М.

(*Канец у чарод. нумары*).

сяброў праверачнае камісіі і, ня гледзячы на гэта, камісія прызнавала іх палітычна няграматнымі. Апрача таго, няпрыемны, па думцы Яраслаўскага, й „судзейскі характар“ праверкі. З іншых „бракаў“ Яраслаўскі ад'значае, што, напр., у Туркестане кантрольная камісія пачала „чысьціць“ усіх камуністых непролетарскага паходжаньня, хаця ў Туркестане вельмі ўжо мала сапраўдных пролетарыяў.

Праверка, як кажа Яраслаўскі, выкрыла „жахоўную“ палітычную няграматнасьць“. На пытаньне, дзе адбывалася Цымэрвальдская конфэрэнцыя, адказвалі, што яна была склікана 1-м і 2-м Інтэрнацыяналам у 1900 г. ў Лёндане. Што датычыць цыфравых агулаў, дык па Петраграду выключана 182 чалавекі, або 4,3 проц. У Маскве выключана 12 проц., у Беларусі 14 проц. і ў Пэнзе 12 проц. Нарэшце, Яраслаўскі прызнаў, што хаця праверка саўсім ня мела характару паходу процi інтэлігенцыі, але ўсё ж такі сярод выключаных, галоўным чынам, інтэлігэнты.

### Суд пролетарскі, ці партыйны?

На паседжаньні ЦИК'у Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік прэзэс вярхоўнага суда Вінакураў, робячы справаздачу аб народным судзе, сказаў, што 75 проц. судзьдзяў належаць да Расейскае Камуністычнае Партыі, 80 проц. сяброў судоў у губэрнях таксама зьяўляюцца камуністымі. Як думае Вінакураў, камісарыят справядлівасьці павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на падбор колегіі абаронцаў, каб яны ня йшлі ў разрэз з прынцыпамі клясавага суда.

### Вёска ня йдзе ў камуністыя.

Цэнтральны камітэт Расейскае Камуністычнае Партыі склікаў усерасейскую нараду сэкрэтароў камуністычных „ячеек“ у вёсках. Выступаўшыя аратары былі досіць пэсымістычнымі ў ацэнцы дзейнасьці камуністых у вёсцы. Прадстаўнік Багародзкага павету Сакалоў заявіў, што „частагуета камуністычная агітацыя настолькі нязгодна з варункамі жыцьця ў вёсцы, што рэзультаты ад яе выходзяць проста процілежныя“. Дэлегат Падольскае губ. Рутэн заявіў аб труднасьцях барацьбы з рэлігійным рухам і аб тым, што сельскія камсамольцы ўпадаюць у „адміністрацыйны нахіл“, што выклікае нездаволеньне сялян. Тав. Гузік (Тульск. губ.) кажа: „У Туле на 200.000 насяленьня камуністых ёсьць 7.000, а ў вёсцы на 1½ мільёна—толькі 3.000. Дэлегат Томскае губ. Евстигнеев з сумам констатуе: „калі пералічаюць гурткі ў вёсцы, мне здаецца, што ў большасьці выпадкаў яны—фікцыя і істнуюць толькі на паперы“. Дэлегатка Пскоўскае губ. Іванова кажа, што часта пасылаюць гэткіх камуністых, што яны толькі падрываюць працу. Дэлегат Царыцынскае губ. скардзіўся, што культурны палітычны ровень вясковых камуністых над'звычайна нізкі. „Зробяць, бывала, антырэлігійны дыспут, выклічуць папа на спрэчку, а ён і ў калёш пасадзіць. Сяляне пасьля гэтага сьмяюцца і адтрымліваюцца адваротныя рэзультаты“. („Правда“ № 243).

Адным словам, як ні стараюцца пад'ехаць да сялянства бальшавікі, а загнаць яго ў сваю партыю ніяк ім не ўдаецца!

## Напады на Украіне.

### БРОДЫ.

1-га лістапада бандыты напалі на фальварак *Папоўцы* ў некалькіх кілёмэтрах ад Падкаменя і дамагаліся ад гаспадара фальварку Фавэнцкага грошай або коняў, пагражаючы яму сьмерцю. Ф. загадаў, каб прывялі са стайні 4 коні, якія аддаў бандытам. Гэта была банда пад загадам Возьніка. Усе бандыты былі азброены стрэльбамі і рэвальвэрамі і былі на канёх. Усе яны аднолькава апрануты: маюць цёмнага колеру шапкі падобныя да паліцэйскіх, іхні камандзер быў у доўгім кажусе.

Пагоня паліцыі прасачыла, што яны схаваліся ў лясох у заходнім кірунку ў бок Бродаў. Іх абкружылі ў трохкутніку: Камень, Пачаеў, Сухая Воля.

У лесе ў 12-ёх кілёмэтрах ад Бродаў бандыты напалі на сялян, якія ехалі на вазох. Пагоня злавіла колькі падазронных людзей, якія, мабыць, разьведчыкі банды Возьніка.

Колькі дзён назад па дарозе да *Залозец* у *Збароўскім* пав. бандыты напалі на купцоў, ехаўшых да Падкаменя. Купцоў аграбілі і забілі. Улада думае, што гэта былі бандыты з групы Шпака.

Паліцэйскія пастарункі на граніцы Бродзкага і Крамянецкага пав. паведамілі старасту і камэнданта паліцыі, што вялізная банда перайшла з боку *Пачаева* ў паўднёвым кірунку і паявілася ў ваколіцы вёскі Папоўцы. Староста ў паразуменьні з паліцыяй даў над'звычайныя загады. Пастарункі ўва ўсім павеце адтрымалі падмогу рэзэрваў і парушылі 22 полк уланаў, які выслаў два эскадроны ў пагоню за бандытамі.

Як выясьнілася, у цяперашні момэнт Бродзкаму павету пагражаюць чатыры банды. На чале адной з іх, якая йдзе з Валыні, стаіць Думанскі, быўшы пастарунковы у Варохаве, каторы добра ведае тэрыторыю, дзеля чаго трудна яго ўлавіць, а тым болей, што ён мае падтрыманьне з боку мясцовага насяленьня. Другой бандай кіруе нейкі Шпак, трэцяй Вуйцік. Чацьвёртая „працуе“ пад кіраўніцтвам успамянутага вышэй Возьніка.

## Жыцьцё провінцыі.

### Падробнасьці нападу на поезд пад Баранавічамі.

ПАТ перадае, што пры нападзе на пасажырскі поезд № 821 ішоўшы з Берасьця ў Баранавічы, бандытаў было 40 чал., апраненых у расейскую ваенную форму і з расейскімі стрэльбамі і кулямётамі, а таксама і ручнымі гранатамі. Бандыты спынілі поезд на 392 кілёмэтры паміж станцыямі Даманова і Лясная, зьняўшы рэльсу. Спынены поезд быў абстрэлены, пасьля чаго пачаўся грабеж. Ад пасажыраў адбіраліся каштоўныя рэчы і грошы, а таксама з большага й адзежа. Аграблены багажны й таварны вагоны. Забіты адзін паліцыянт Ян Стулка, ранены паручнік 26-га уланскага палку Жарскі і адзін падафіцэр. Грабеж цягнуўся 20 мінют. Скончыўшы грабеж, бандыты разьдзяліліся на дзьве часьці і адыйшлі ў кірунку на поўнач. Атаманам шайкі быў Аршынёў, шмат разоў спамінаны ў паліцэйскіх данясеньнях. Аб нападзе на поезд паведаміў начальнік станцыі Баранавічы а 9 гадзіне, або цераз гадзіну пасьля нападу. На месца здарэньня быў пасланы аддзел паліцыі з 35 чалавек, на чале з павятовым камэндантам. Ваенныя ўлады ў паразуменьні з паліцыяй выпрацавалі плян дзеяў. Выехаў на месца таксама й начальнік аддзелу бясьпечнасьці Наваградзкага ваяводзтва; з Варшавы дэлегованы міністрам унутраных спраў вышэйшы паліцэйскі вураднік. Арыштована 20 чал., западозраных у нападзе.

Паводлуг прыватных вестак, адтрыманых у Вільні, ў поездзе, на які напалі бандыты, было 30 салдатаў корпусу пагранічнае варты, ехаўшых на месца службы. Яны ехалі бяз зброі, якую мелі адтрымаць на месцы. Напад, зроблены ў 90 вярстох ад граніцы ў Сталінскім пав. Наваградзкага ваяводзтва. Наваградзкі ваявода гэн. Янушайціс, быўшы ў Вільні, заразжа выехаў на месце нападу. Нельга не ад'значыць, што бандыты выбралі для нападу момэнт зьмены пагранічнае паліцыі корпусам пагранічнае варты, г. знач. дзень 3 лістапада. Як відаць, яны замерваліся выкарыстаць замяшаньне, лёгка могшае паўстаць пры неспадзяваным нападзе ў гэтых, якраз, варунках.

З Баранавіч надыйшло паведамленьне аб яшчэ аднэй цікавай падробнасьці нападу: пасьля абабраньня пасажыраў, бандыты патрэбавалі ад чугуншчыкаў адвясьці поезд на 3 кілёмэтры назад на 388 кілёмэтр, дзе іх чакалі фурманкі, на якія былі накладзены награбленыя рэчы і павезены.

„Słowo“ піша, што прасьледаваньнем бандытаў кіруе палкоўнік Гержкоўскі, а паліцэйскае сьледзтва вядзе надкамісар Макавецкі з Слоніма. Дасюль арыштована аж 52 падазронныя асобы.

### Сьвянцяны.

Сьледзтва выясьніла, што спроба выклікаць катастрофу пасажырскага поезду паміж станцыямі **Дукшты** і **Турмонт** зьяўляецца справаю рук мясцовых хуліганаў, якія арыштованы. Праступнікі ня маюць нічога супольнага з бандамі, якія арганізуюцца за межамі Рэспублікі.

## Навіны ў тры радкі.

— У Варшаве за кастрычнік у параўнаньні з верасьнем дарагоўля паднялася на 7,09 проц.

— У вёсцы Даніловічы *Гомельскае* губ. забіты разрыўною куляю стрэлам праз вакно селькор. губ. газэты.

— Саветы адкінулі прапазыцыю Лігі Народаў быць на конфэрэнцыі па абмежаваньню гандлю наркотыкамі.

— У блізкай будучыні пачнецца эвакуацыя японскіх войскаў з Сахаліну. Застанецца невялічкі гарнізон толькі ў Александраўску.

— На абшары палацу японскага імпэратара ў Токіо згарэла 5.000 баракаў, збудованых для пацярпеўшых ад землятрасеньня.

— Італьянскія газэты пішуць, што на Сінайскім паўвостраве каля Суэцкага каналу выкрыты залежы золата і нэфты.

— „Роста“ павед., што ў Вяцкай губ. знойдзены залежы жалезнае руды лікам каля 10 мільёнаў пудоў.

— На Камандорскіх астравох адбылося 21 кастр. даволі моцнае землятрасеньне.

— У Манголіі заўважана 3 здарэньні бубоннае чумы.

— У чырвонай арміі 1-га лістапада спынена бясплатная выдача табакі.

— Ува ўсіх вясковых школах **Беларусі** выкладаньне пераведзена на беларускую мову.

— У Чысьцякоўскай шахце (Данецкі басэйн) адбыўся ўзрыў дынамітнага складу. Забіта 3 чал.

— У Празе памер на 43 г. жыцьця адзін з павадыроў нямецкіх соцыялістых у Чэхаславакіі Карусь Чэрмак.

— „Der Morgen“ паведамляе з Лёндану, што дэфіцыт выстаўкі ў Wembley дасягае мільёна фунтаў штэрлінгаў.

— Лік безработных у Даніі павялічыўся за мінулы тыдзень на 187 чал. і раўняецца цяпер 16.914.

— 2-га сьнежня сёл. году адбудзецца ў Копэнгагэне міжнародная конфэрэнцыя аб паветранай камунікацыі.

— Паўночнай Баварыі пагражае паводка. З прытокаў Рэйну, Нэкару і Майну надходзяць трывожныя весткі. Заходні Палятынат заліты вадою.

— 3-га гэт. лістапада памёр у Копэнгагэне вядомы дацкі скульптор Карусь Нельсэн.

## Тутэйшая хроніка.

= **Друкаваньне календара.** З пачатку гэтага тыдня друкуецца беларускі календар на 1925 год. Зьмест календара вельмі цікавы.

= **У Касе Хворых.** Управа Касы Хворых пастанавіла з 7 гэтага лістапада пачынаць працу а 8½ гадзіне раніцай і канчаць а 3 гадзіне ўдзень.

= **Эпідэміі.** За мінулы тыдзень у Вільні занатована 9 захварэньняў сыпным тыфусам і 4 брушным, 2 заваротным, 4 рожаю, 5 шкарлятынай і 3 крываўкаю. Выпадкаў сьмерці было 2.

= **Дарагоўля.** За другую палову кастрычніка дарагоўля цаднялася ў Вільні на 2,5 проц.

= **Адміністрацыйныя кары.** Камісарыят Ураду прыцягнуў да адпавядальнасьці за надужыцьце алькоголю за мінулы кастрычнік месяц 213 чалавек, за нарушэньне правіл для звозчыкаў 120, за нелегальны пераход граніцы 3, нелегальнае трыманьне зброі 2, нарушэньне распараджэньняў Камісарыяту 105, няправільнае карыстаньне зброяй 2, за нарушэньне рэестрацыйных правіл чужаземцамі 329, нарушэньне санітарных правіл 78, нелегальнае прабываньне ў Вільні 2, за спэкуляцыю 13 і выпушчаньне сабак без намордніка 14.

= **У арганізацыі баптыстых.** „Вил. Утро“ піша, што ў віленскай арганізацыі баптыстых адбыўся цяпер раскол, выкліканы звальненьнем вышэйшаю баптыстаўскаю арганізацыяю кіраўніка віленскае арганізацыі і непаразуменьнямі сярод „братоў і сёстраў“. Газэта дадае, што ўжо можна гаварыць аб аканчальным развале арганізацыі, меўшай прабываньне ў Зьвярынцы.

= **Выезд архіепіскапа.** Віленскі і Лідзкі архіепіскап Хвядос 4 гэтага лістапада выехаў у Горадзен.

= **Прафэсіянальнае жыцьцё.** На адбытым у польскім рабочым доме агульным сходзе друкаршчыкаў хрысьціян пастаноўлена ізноў арганізаваць прафэсіянальны саюз друкаршчыкаў, які распаўся каля 6 месяцаў назад. Пастаноўлена выбраць управу ў складзе: Былінскага, Б. Васілеўскага, Ківільшы, Ціханоўскага, Бабяжа, К. Урбановіча і Маркушэўскага, якая павінна ўвайсьці ў контакт з цэнтральным бюрам клясавага прафэсіянальнага саюзу друкаршчыкаў у Варшаве. Цераз дзён 12 адбудзецца паўторны агульны сход сяброў саюзу, на якім будзе выбрана заўсёдная ўправа саюзу і рэвізійная камісія.

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**.

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.